# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 30 (909) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 29 ЛІПЕНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.








Сення ўжо толькі старэйшыя людзі памятаюць, што за народную ўладу гадоў 25—28 таму назад трэба было змагацца са зброяй у руках, што за яе пралівалі кроў члены Польскай рабочай партыі, армоўцы, міліцыянеры і салдаты Людовага Войска Польскага, асабліва тыя, якія служылі ў корпусе ўнутранай абароны.

Пераконваюся ў гэтым, калі знаёмлюся з матэрыяламі, сабранымі ў **Зале традыцый Падляшскай ваеннай часці войска ўнутранай абароны.** Яе гісторыя лічыцца ад 6 чэрвеня 1945 года. У той час і крыху пазней дзейнічалі ў лясах Беластоцкага ваяводства 44 бандыцкія групіроўкі, якія разам налічвалі каля 2500 людзей. Хадзілі па вёсках, рабавалі сялян, расстрэльвалі актывістаў народнай улады. Розныя „Гусары", „Млоты" і іншыя атаманы лясных банд не маглі прымірыцца, што народ стаў сапраўдным гаспадаром сваёй краіны. Дык украдкам, знянацку кусалі, грызлі, палілі. Вёскі Зане, Вулька, Шпакі... і дзесяткі іншых. Кроў і трупы.

*„Я праклінаю вас, праваднры лясных бандаў у краіне і за мяжой! Мёртвымі, пабялеўшымі вуснамі крычу на ўвесь свет: адпомсьцьце за майго сына!"*

Гэта ліст маці, сына-салдата якой зверскі замучылі бандыты. Гэты ліст я таксама знайшоў у Зале традыцый Падляшскай ваеннай часці войска ўнутранай абароны.



*Пачатковую школу ў Златорыі пабудавалі салдаты Падляшскай ваеннай часці.*

Жывой хронікай дзейнасці Падляшскай часці войска ўнутранай абароны з'яўляецца штабны сержант **Уладзіслаў Броўка.** Яго салдацкі шлях распачаўся ў савецкім партызанскім атрадзе імя Кутузава, які дзейнічаў пад Баранавічамі і Маладэчнам.

— Гітлераўцы хацелі вывезці мяне ў Нямеччыну, — расказвае ён, — дык я ўцёк у партызаны. Калі мы пасля вызвалення Беларусі спалучыліся з Савецкай Арміяй, мяне як паляка накіравалі ў Польскае Войска.

Уладзіслаў Броўка служыў салдатам чацвёртай пяхотнай дывізіі імя Кілінскага і разам з ёю прайшоў увесь баявы шлях ад Любліна праз Варшаву і Калобжэг да Берліна і Эльбы.

— Калі па загаду камандавання прыбыў я ў Падляшскую ваенную часць, тут якраз адбывалася пахаванне аднаго салдата, загінуўшага ў час сутычкі з бандамі. А зараз на наступны дзень атрымаў я ў сваё распараджэнне ўзвод салдат і мы адправіліся ў мясцовасць Тапчэва, дзе паявілася банда „Млота". Была лютая зіма, а нам — слабавата апранутым і абутым салдатам — давялося аднойчы прасядзець у засадзе ля вёскі Пасвентнэ аж 5 дзён без перапынку. Знялі мы тады аднаго з банды „Млота". Пасля — у сакавіку 1948 года — наш узвод накіравалі ў Драгічын. Там было асабліва неспакойна. Наш штаб знаходзіўся ў Сямяцічах. У Драгічыне стаялі мы даволі доўга. Добра памятаю адзін першамайскі вечар. Зранку наладзілі мы мітынг мясцовага насельніцтва, каб урачыста адзначыць вялікае свята працоўных. Мітынг прайшоў спакойна, хаця мы ведалі, што сярод натоўпу могуць знаходзіцца лясныя бандыты. Пасля ў школе распачаліся танцы. Раптам узнялася страляніна. Гэта чацвёра п'яных бандытаў рашылі спыніць „камуністычныя гульні", як яны гаварылі. Наш узвод быў на гэта падрыхтаваны, але стралянь мы не хацелі і не маглі, каб выпадкова не забіць кагосьці зусім пастаранняга. Там арыштавалі мы тады толькі двух бандытаў, а два ўцяклі.

Подобных здарэнняў у салдацкім жыцці Уладзіслава Броўкі было многа. Расказвае пра іх ён не вельмі ахвотна.

— Навошта? Гэта ўжо гісторыя.

Так, але без гісторыі няма сённяшняга дня. Ды і сённяшні дзень у салдат Падляшскай ваеннай часці войска ўнутранай абароны запоўнены адказнай і нялёгкай службай. Грамадзяне ў мундзірах утрымліваюць цесныя кантакты з цывільным насельніцтвам. Сімвалам гэтага супрацоўніцтва з'яўляецца, між іншым, прыгожая школа імя радавога Т. Руткоўскага ў Златорыі, якую ад фундамента пабудавалі самі салдаты. А ў гэтым годзе ў гонар Цэнтральных дажынак салдаты абавязаліся грамадскім чынам папрацаваць на вуліцах горада звыш 10 тыс. гадзін і служыць гарадскім установам уласнай тэхнікай.

**Віктар Рудчык**
фота з архіва



*Радавы Тадэуш Руткоўскі загінуў 16 снежня 1946 года на станцыі ў Старасельцах, адзінока абараняючы транспарт перад бандытамі.*

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"

**Рэпартаж з Мельніка ● Інтэрв'ю з др Мікалаем Вінярскім (Варшаўскі універсітэт) ● Новыя вершы і проза белавежцаў ● Да быка ці да інсемінатара ● Хоць трэсні, а давай праграму ● Фэстын у Збучы ● Карэспандэнцыя з Гродна ● Весткі з Плёсак, Старыны, Бельска, Саколкі, Хорашчава, Кляшчэляў, Тапчыкалаў і Орлі ● Песня з рэпертуару „Чырвоных гітар" „Wróćmy na jeziora"**



**Дваццаць сёмага чэрвеня — дзень вызвалення Беластока.**
**Фота Я. Цялушэцкага.**




## АД БЕЛАСТОЦКАГА ПАВЕТУ



ГАВОРЫЦЬ СТАРШЫНЯ ПРЭЗІДЫУМА ПРН У БЕЛАСТОКУ МГР БАЗЫЛІ ГУЛЬКО.

Беластоцкі павет мае спецыфічны характар. Ён акружае адміністрацыйны цэнтр Беластоцкага ваяводства, якім з'яўляецца вялікі 180-тысячны горад. Таму амаль палову таго, што прадукуюць сяляне Беластоцкага павету, выкарыстоўвае непасрэдна горад Беласток. Перш за ўсё дастаўляем для беластачан агародніну і малако.

Улічваючы прыгарадны характар Беластоцкага павету, мы перш за ўсё рашылі заахвоціць гаспадароў, каб шырока заняліся агародніцтвам і садавінай. І гэта ў значнай меры нам удалося. Цяпер маем у павеце, асабліва ў наваколлі Заблудава, Юхноўца і Дайлід, каля 800 га поля пад трускалкамі. І гэтая паверхня ўсё яшчэ пашыраецца. Нягледзячы на сёлетнія клопаты ў скупцы трускалак, спулдзельня „Вітаміна" абавязана ў далейшым падпісваць новыя кантрактацыйныя ўмовы. Толькі за мінулы год у Беластоцкім павеце паявілася каля 300 га новых плантацый трускалак. Гэтая ж спулдзельня планавала, што скупіць у гэтым годзе 2,5 тыс. тон трускалак, а да сённяшняга дня, гэта значыць да 12 ліпеня, купіла ўжо ад сялян 3.200 тон і скупка яшчэ прадаўжаецца. Нашы трускалкі ў велізарных калькасцях ідуць за мяжу, у тым ліку і ў Савецкі Саюз, а канкрэтна — у суседнюю Беларусь. Са сталіцы Савецкай Беларусі кожны дзень у час скупкі прыязджалі да нас у Беласток за трускалкамі 10 вялікіх грузавых аўтамабіляў-халадзільнікаў і пасля загрузкі дастаўлялі гэты салодкі тавар непасрэдна на перапрацоўчыя прадпрыемствы Мінска і іншых беларускіх гарадоў.

Хутка ў нас распаўсюджваецца прадукцыя агародніны пад шклом. Маем зараз звыш 200.000 квадратных метраў зямлі, прыкрытай шклом і празрыстай фоліяй, дзе на працягу ўсяго года незалежна ад кліматычных умоў можна разводзіць памідоры, агуркі і ўсё іншае. Асабліва ахвотна займаюцца гэтым у Дабжыневе, Заблудаве, Міхалове, Гарадку, Шымках і ў некаторых іншых мясцовасцях. Цешыць нас, што многія маладыя сяляне спецыялізуюцца ў прадукцыі агародніны пад шклом. Гэта стварае для іх жыццёвыя перспектывы ў родных вёсках. Важна гэта і таму, што на звыш 7 тысяч уласнікаў сялянскіх гаспадарак, якія знаходзяцца ва ўсходніх раёнах Беластоцкага павету, амаль 4 тысячы, значыць, больш-менш палавіна, цяпер ужо ва ўзросце за 60 гадоў. Гэтыя гаспадары пераважна маюць дзяцей у Беластоку, а самі абы-як дажываюць свой век на бацькаўшчыне і не вельмі зацікаўлены ў тым, каб прымяняць у сваіх гаспадарках прадукцыйныя навінкі.

Хаця саромецца няма чаго. Падбеластоцкія хлебаробы добра папрацавалі на тое, каб цэнтральныя дажынкавыя ўрачыстасці адбыліся ў гэтым годзе менавіта ў Беластоку. Летась намалацілі больш чым 23 цэнтнеры збожжа з кожнага гектара і ўпершыню ў гісторыі павету накапалі ў сярэднім 200 цэнтнераў бульбы з гектара. Усё паказвае на тое, што мы зможам гаспадару Цэнтральных дажынак у Беластоку з гонарам далажыць, што мінулагоднія вынікі нашы сяляне ў гэтым годзе перавыканалі. Спадзяемся, што плён нашага збожжа не павінен быць ніжэйшы ў сярэднім чым 24 цэнтнеры, а ў бульбе магчыма ўдасца нам пераадолець зачараваную мяжу 200 цэнтнераў з гектара.

Добрыя вынікі з павета не бяруцца. На іх трэба было працаваць круглы год.

Працяг на стар. 4

## Выстаўка народных мастакоў



Як мы ўжо паведамлялі, з нагоды Дзён БССР у Музеі рэвалюцыйнага руху ў Беластоку адкрыта выстаўка народнага мастацтва Гродзеншчыны.

На выстаўцы, якую падрыхтавалі мастакі прынёманскага краю Уладзімір Жыгалаў і Уладзімір Ткачэнка, каля 400 экспанатаў. Тут можна ўбачыць цудоўныя беларускія дываны, разьбу ў дрэве, кераміку і карціны. Аўтарамі прац з'яўляюцца аматары-мастакі, якімі апякуецца Дом народнай творчасці ў горадзе Гродна.

Гэта ўжо другая выстаўка гродзенскіх народных мастакоў у Беластоку.

Тэкст і фота **А. Карпюка**

# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі

 **СВЕТ**  **БССР**  **ПОЛЬШЧА**  **ВАЯВОДСТВА**

### СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

У Маскве адбылася чарговая сесія Вярхоўнага Савета СССР. Дэпутаты дыскутавалі над спосабамі далейшага ўдасканальвання сістэмы навучання і над праектамі асноў закона ў галіне школьніцтва.

За два гады ў СССР будзе поўнасцю закончан пераход на ўсеагульнае сярэдняе навучанне. Ужо ў мінулым годзе каля 90 прац. хлопцаў і дзяўчат, якія закончылі васьмігодкі, працягвала вучыцца далей. Да 1975 года тэхнічныя прафесіянальныя школы павінны даць не менш 9 мільёнаў кваліфікаваных рабочых, якія стануць асноўнай часткай кадраў народнай гаспадаркі.

Характэрна, што Вярхоўны Савет СССР разглядаў урадавы праект праграмы развіцця школьніцтва ў той момант, калі Савецкі Саюз з поспехам рэалізуе праграму міру, сфармуляваную ў 1971 годзе на XXIV з'езд КПСС.

### ВОСТРЫЯ НЕПАРАЗУМЕННІ

На сустрэчы міністраў сельскай гаспадаркі дзевяці краін — членаў Еўрапейскага супольнага рынку ў палове ліпеня міністр Францыі назваў рашэнне ЗША аб устрыманні экспарту соі ў краіны Заходняй Еўропы „амерыканскай агрэсіяй" і двойчы пагражаў, што пакіне залу, у якой адбывалася сустрэча. Нарэшце згадзіўся на часовае і кампраміснае вырашэнне: член брусельскай камісіі па справах сельскай гаспадаркі ў канцы мінулага тыдня выехаў у Вашынгтон, каб высвятліць сітуацыю і паспрабаваць атрымаць адхіленне амерыканскага рашэння. Калі ён вернецца з пустымі рукамі, тады будзе склікана надзвычайнае пасяджэнне міністраў сельскай гаспадаркі „дзевяці", і тады паўторыцца зноў непаразуменне.

### АДКРЫТА АТЛАНТЫДА?

Члены 70-асабовай навуковай экспедыцыі, арганізаванай Каліфарнійскім універсітэтам, знайшлі на марскім дне, непадалёк ад берагу, доўга і беспаспяхова дагэтуль шуканыя сляды легендарнай загінуўшай зямлі Атлантыды.

Згодна з легендамі, а таксама ўспамінамі Платона ў яго слаўных дыялогах, іменна зямля, якая зараз знаходзіцца на дне мора, непадалёк ад паўднёва-заходняй Іспаніі была калісьці цэнтрам сушы, якая ў выніку таямнічага катаклізму каля 14 тысяч год таму назад абсунулася ў глыбі акіяна.

### АФГАНІСТАН — РЭСПУБЛІКА

У выніку дзяржаўнага перавароту перастала існаваць Каралеўства Афганістана і ад 17 ліпеня Афганістан стаўся рэспублікай. Выступаючы па радыё, былы многагадовы прэм'ер Афганістана Махмед Дауд Кан сказаў, што кароль Махмед Захір Шах „завёў у краіне псеўдадэмакратыю і давёў эканоміку краіны да руіны". Ваенны ўрад будзе імкнуцца да таго, каб вярнуць дэмакратычны лад.

У галіне замежнай палітыкі Афганская Рэспубліка будзе супрацоўнічаць з усімі дзяржавамі і будзе праводзіць нейтральную палітыку, не ўступаючы ў ваенныя блокі. (ак)

### 150 ПРАЦЭНТАЎ НОРМЫ

Расточнік 5-га механічнага цэха Мінскага станкабудаўнічага завода імя Кірава — Георгій Рамаоўскі свае дзённыя вытворчыя заданні перавыконвае не менш, чым на 150 працэнтаў. Працуе ён пад дэвізам: „Пяцігодку за чатыры гады". Рамаоўскі спаборнічае з расточнікам вільнюсскага завода „Жаргірыс" Свідрасам Пятрасам.

### РАЦЫЯНАЛІЗАТАР

Механік Мазырскага вытворчага дрэваапрацоўчага аб'яднання М. Данельчук з'яўляецца актыўным рацыяналізатарам. Нядаўна ўнёс ён ужо сотую рацыяналізатарскую прапанову. За гэта яму прысвоена званне заслужанага рацыяналізатара БССР.

### ЗВЫШПЛАНАВЫЯ ПАНЧОХІ

Брэсцкі панчошачны камбінат на 11 дзён раней тэрміну выканаў паўгадавое заданне па рэалізацыі прадукцыі. Вартасць звышпланавых панчох ацанілі на 580 тысяч рублёў.

### У КАЛГАСЕ „ПАРТЫЗАН"

Калгас „Партызан" першы ў Ельскім раёне пачаў жніво. Пасля зажынкаў, якія зрабіў вопытны механізатар Пятро Шаўцоў, у работу ўключыліся пяць камбайнаў. Першыя намалоты абнадзейваюць на высокі ўраджай.

### ПЕРАДЖНІЎНАЯ НАРАДА

Нарада адказных работнікаў абласных сельскагаспадарчых арганізацый адбылася ў Брэсцкім абкоме партыі. Усебакова разглядаліся пытанні арганізацыі ўборкі збожжавых з улікам узнікшых неспрыяльных умоў надвор'я. У калгасах і саўгасах вобласці палегла ад дажджоў 30 працэнтаў жыта і пшаніцы. Нягледзячы на гэта, ёсць рэальная магчымасць, каб у Брэсцкай вобласці сабраць не менш, як 23—24 цэнтнеры збожжа з кожнага гектара.

### НА РАДЗІМЕ ЯНКІ КУПАЛЫ

На радзіме Янкі Купалы, у маляўнічай Вязынцы адбылося чарговае „Свята паэзіі", на якое прыйшлі і прыехалі сотні людзей з розных мясцін Беларусі, каб выказаць сваю пашану да Купалы і яго паэтычнага слова. Свята адкрыў народны паэт, старшыня Саюза пісьменнікаў БССР Максім Танк. Іншыя паэты, а сярод іх і Пятрусь Броўка, чыталі свае вершы, дзяліліся ўспамінамі аб сустрэчах з Купалам. Выступалі таксама самадзейныя калектывы. У беларускім „Свяце паэзіі" прынялі ўдзел пісьменнікі з іншых саюзных рэспублік.

### СВЯТА ПРАЦЫ І ПЕСНІ

Напярэдадні жніва ў калгасе „Савецкая Беларусь", Клецкага раёна, Мінскай вобласці адбылося шматлюднае „Свята працы і песні". Лепшым калгаснікам былі ўручаны грашовыя прэміі, кнігі і памятныя падарункі. На гэтае свята прыехалі да хлебаробаў артысты з Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы з Мінска. Яны сардэчна дзякавалі калгаснікам за іх добрую працу і шчыра жадалі ім далейшых поспехаў, а ў заключэнне паказалі спектакль па п'есе А. Карнейчука „Памяць сэрца". (вр)

### СВЯТА АДРАДЖЭННЯ

29 год таму назад у Хэлме Люблінскім быў выдадзены маніфест ПКВН. Нарадзілася новая Польшча — народная. 22 ліпеня з'яўляецца нацыянальным святам нашай Айчыны. Сёлетняя — 29-я ўжо гадавіна адраджэння Польшчы святкавалася ўрачыста. Напярэдадні свята найвышэйшыя партыйныя і дзяржаўныя ўлады прынялі ў Бельведары заслужаных працаўнікоў з розных галін гаспадаркі, навукі і культуры. Яны былі ўзнагароджаны высокімі дзяржаўнымі ўзнагародамі. Вечарам 21 ліпеня ў Вялікім тэатры ў Варшаве адбыўся ўрачысты канцэрт.

22 ліпеня. Э. Герэк, Г. Яблонскі, П. Ярашэвіч і ўсе члены Палітбюро ЦК знаходзяцца ў Кракаве. Тут, на Кракаўскім рынку, наступае ўрачыстая маніфестацыя моладзі, сабранай на злёце маладых перадавікоў працы і навукі, і кракаўскіх рабочых. Выступае Э. Герэк. Ён, між іншым, сказаў: „Новая Польшча паўстае ўсюды, у кожным ваяводстве і ў кожным павеце, у кожнай гміне, вёсцы і мястэчку, на кожнай фабрыцы і ў кожнай школе".

Пасля гэтай сустрэчы высокія госці наведалі рабочых „Гуты Леніна". Гэта найбольшы наш металургічны камбінат, які выплаўляе 40 прац. усёй прадукцыі сталі ў краіне. У гэтым годзе кракаўскія металургі выплавяць упершыню больш як 6 млн. сталі ў год.

### У ВАРШАВЕ

У Варшаве ў дзень свята Адраджэння адбылася традыцыйная змена варты пры гробе „Нязнанага жаўнера" на пляцы Перамогі. Як заўсёды, быў гэта вельмі ўрачысты момант. Прагрымеў артылерыйскі салют.

А напярэдадні свята адбылося спатканне з дыпламатамі, акрэдытаванымі ў Польшчы. Прысутнічалі на ім Э. Герэк, Г. Яблонскі, П. Ярашэвіч, члены Палітбюро і Сакратарыята ЦК, члены Рады Дзяржавы, Прэзідыума Сейма і Урада, кіраўнічыя ўлады ЗСЛ і СД і грамадскіх арганізацый. З прамовай выступіў П. Ярашэвіч, які падкрэсліў, што Польшча ў далейшым будзе развіваць і ўзбагачаць свае суадносіны з усімі народамі свету.

### ВІНШАВАННІ

З выпадку нацыянальнага свята Польшчы, на рукі кіраўніцтва партыі і дзяржавы прыйшло дзесяткі віншавальных тэлеграм з усіх краін свету.

### III ЗЛЁТ МАЛАДЫХ

III злёт маладых перадавікоў навукі, працы і баявога навучання праходзіў у Кракаве. Каля 5 тыс. маладых прадстаўляла на ім усе раёны краіны і ўсе прафесіі. Прысутнічала тут 600-асабовая група польскіх дэлегатаў на Берлінскі X фестываль моладзі і студэнтаў.

### ДЭЛЕГАЦЫЯ ДРВ У ПОЛЬШЧЫ

Па запрашэнню ЦК ПАРП і урада ПНР Польшчу наведала дэлегацыя Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнама на чале з Фан Ван Донгам, членам Палітбюро ЦК Партыі працоўных В'етнама і прэм'ерам ДРВ. Размовы праходзілі ў шчырай і сяброўскай атмасферы.

### ТРАСА „Л" ПРАЗ ГОД

Ужо праз год, на XXX гадавіну ПНР, будзе гатова варшаўская траса „Л", якая будзе трасай наскрозь сучаснай. Яна спалучыць абодва бакі Віслы. (вл)

### ЛІПЕНЬСКАЯ ЎРАЧЫСТАСЦЬ

20 ліпеня, напярэдадні свята Адраджэння Польшчы, у гмаху Прэзідыума ВРН у Беластоку адбылася вялікая ўрачыстасць. Прысутнічалі на ёй члены экзекутывы ВК ПАРП на чале з членам ЦК ПАРП, паслом Сейма, I Сакратаром ВК ПАРП Здзіславам Куроўскім, прадстаўнікі кіраўніцтва ВК ЗСЛ на чале з прэзасам Ежы Грыбчакам, прадстаўнікі кіраўніцтва СД на чале з старшынёй Здзіславам Пукорскім, члены Прэзідыума ВРН на чале з старшынёй Зыгмунтам Спрыхам. Прысутнічалі таксама прадстаўнікі гарадскіх улад, прафсаюзаў, маладзёжных і грамадскіх арганізацый, войска і міліцыі, прадстаўнікі ўсіх прафесій і грамадскіх груп — найлепшыя людзі ў штодзённай працы і грамадскай дзейнасці, якая так лічыцца ў працэсе хуткага развіцця нашага рэгіёну.

На гэтую ўрачыстасць прыехалі прадстаўнікі Савецкай Беларусі з суседняй Гродзенскай вобласці: работнік Гродзенскага абкома кампартыі Беларусі Аляксей Саўчук і галоўны рэдактар „Гродзенскай праўды" Аляксандр Богуш.

На традыцыйнай ужо ўрачыстасці ўпершыню былі зроблены ўпісы ў ганаровую „Кнігу заслужаных для Беласточчыны". Ёсць тут на сёння 48 прозвішчаў найбольш актыўных людзей нашага ваяводства.

Як штогод, шмат дзеячоў было ўзнагароджана высокімі дзяржаўнымі ордэнамі, а многім былі ўручаны ўзнагароды Прэзідыума ВРН за культурную і навуковую дзейнасць для Беласточчыны.

### ТЭКСТЫЛЬШЧЫКІ ПРАЦУЮЦЬ ДОБРА

Паспяхова выканаўшы план першага паўгоддзя, беластоцкія тэкстыльшчыкі перавыконваюць планы на ліпень. Напрыклад, за першыя дзве дэкады месяца Беластоцкае прадпрыемства ваўнянай прамысловасці імя Сяржана вырабіла звыш плана 2 тыс. метраў тканін. У „Фастах" за 17 дзён ліпеня толькі адзін цэх даў звыш плана 3 тоны тканін.

### НОВЫЯ СПАРТЫЎНЫЯ АБ'ЕКТЫ

Напярэдадні свята Адраджэння ў Беластоку былі адкрыты новыя спартыўныя аб'екты, вельмі патрэбныя гораду: крыты басейн і стадыён у Старасельцах. На адкрыцці гэтых аб'ектаў прысутнічалі прадстаўнікі найвышэйшых улад Беластока.

### ХЛЕБНЫ КВАС

Беластоцкае ваяводства, першае ў краіне, пачало вырабляць хлебны квас. У першым паўгоддзі было дастаўлена на рынак 200 тыс. бутэлек, а да канца года будзе дастаўлена каля 800 тыс. бутэлек гэтага добрага напітку.

### ГАРАДСКАЯ КАМУНІКАЦЫЯ Ў ЭЛКУ

20 ліпеня пачала дзейнічаць гарадская камунікацыя ў Элку. Першых пасажыраў возяць тры аўтобусы, аднак яшчэ ў гэтым годзе колькасць іх павялічыцца.

### КРОЎ ЧЫГУНАЧНІКАЎ РАТУЕ ЖЫЦЦЁ

На чыгуначным прадпрыемстве ў Лапах у апошні час 149 працаўнікоў ганарова аддалі 35,4 літра крыві. (ач)



**Niedziela 29.VII.**

7.25 Program dnia. 7.30 TV Technikum Rolnicze: Organizacja letniego żywienia zwierząt. 8.10 „Przypominamy, radzimy". 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 „Świat, który nie może zaginąć" — film dok. ang. 9.25 PKF. 9.35 „Antena". 9.50 „W świecie dźwięków" — rep. film. 10.20 „Wód opisanie". 10.50 IX Niedzielny Koncert Promenadowy z Pragi. 12.00 Dziennik. 12.15 „Przemiany". 12.45 Teatrzyk dla Przedszkolaków: M. Terlikowska — „Osiołek szuka przyjaciół". 13.30 „Interstudio". 14.00 Losowanie Totolotka. 14.20 „Radar". 14.30 „Wyprawa do źródeł Amazonki" („Klub Sześciu Kontynentów"). 15.10 „Przyjąć czy odrzucić" — rep. 16.00 „Polska contra Reszta Świata" — teleturniej. 17.00 „Tele — Echo". 18.00 Międzypaństwowe spotkanie w koszykówce mężczyzn Polska — USA. W przerwie: Kronika Spartakiady Młodzieży. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Film fab. 21.15 „Sukces". 22.05 Międzynarodowa Wiosna Estradowa 73 — „Śpiewający Budapeszt". 23.00 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 30.VII.**

15.25 Program dnia. 15.30 Kronika X Światowego Festiwalu Młodzieży i Studentów w Berlinie. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 17.10 „Echo stadionu". 17.35 TV Kurier Kielecki. 17.50 „Oferty". 18.05 TV Kurier Warszawski. 18.25 Magazyn Postępu Technicznego. 18.55 Kronika Spartakiady Młodzieży. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Letni Przegląd Teatru TV: E. Caldwell — „Przyjdzie taki pod sam dom i...". 21.50 „Nie na sprzedaż" — rep. film. 22.25 Dziennik. Wiadomości sportowe. Kronika Festiwalowa. 23.00 Gra Michał Urbaniak Constellation.

**Wtorek 31.VII.**

10.00 „Futrzany gang" — film fab. ang. 15.25 Program dnia. 15.30 Kronika X Światowego Festiwalu Młodzieży i Studentów w Berlinie. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 17.10 „Najdłuższy rejs" — program publ. 17.40 TV Kurier Mazowiecki. 18.00 TELEFERIE. 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Czarownica z bagien" — film fab. radz. 21.40 „Merkury 73". 22.25 Dziennik. Wiadomości sportowe. Kronika Festiwalu.

**Środa 1.VIII.**

10.00 „Czarownica z bagien" — film fab. radz. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Teatr Młodego Widza — Scena Faktu: J. Swiderski — „Pamiętnik 14-letniego powstańca". 17.55 Gra Orkiestra Dęta Garnizonu Łódzkiego z udziałem solistów. 18.25 TV Kurier Warszawski 18.45 Magazyn Medyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Pogoń za Adamem" — film fab. pol. 21.45 FORUM. 22.35 „Niobe" — film baletowy TVP. 22.50 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Czwartek 2.VIII.**

10.00 „Pogoń za Adamem" — film fab. pol. 16.15. Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 17.10 PKF. 17.25 „Daleki świat — reportaż z Matto Grosso". 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „Powietrze w probówce" — program publ. 19.05 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Lista Adriana Messenger" — film fab. USA. 22.05 Dziennik. 22.20 Wiadomości sportowe.

**Piątek 3.VIII.**

10.00 „Lista Adriana Messenger" — film fab. USA. 15.25 Program dnia. 15.30 Kronika X Światowego Festiwalu Młodzieży i Studentów w Berlinie. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 17.10 „Nie tylko dla pań". 17.40 TV Kurier Warszawski. 18.00 TELEFERIE. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Debiuty — Opole 73". 20.55 „Panorama". 21.35 Teatr TV: K. Capek — „Inwazja jaszczurów". 22.50 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Sobota 4.VIII.**

10.00 „Powrót na miejsce wypadku" — film fab. jugosł. 15.55 Program dnia. 16.00 Program I proponuje. 16.20 Dziennik. 16.30 TELEWIZJA MŁODYCH. 17.00 Sprawozdanie z półfinału Pucharu Europy w lekkiej atletyce kobiet: ZSRR — Bułgaria — Polska — Szwecja — Czechosłowacja — Szwajcaria. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 X Światowy Festiwal Młodzieży i Studentów w Berlinie. „Rytm 73" — festiwalowy program rozrywkowy. 21.15 „Powrót na miejsce wypadku" — film fab. jugosł. 22.45 Dziennik. 23.00 Sprawozdanie z półfinału Pucharu Europy w lekkiej atletyce mężczyzn: Finlandia, Hiszpania, NRD, Polska, Irlandia, Jugosławia. Wiadomości sportowe.



**Piątek, 27 lipca**

8.15 Spektakl TV. 11.15 Szkoła szachowa. 13.45 Program dnia. 16.10 Ekran dla dzieci. 17.00 Świat socjalizmu. 18.15 Spektakl teatralny. 19.00 Czas. 19.30 c. d. spektaklu. 20.15 Panorama nowin. 20.35 c. d. spektaklu. 21.20 Program sportowy.

**Sobota, 28 lipca**

7.00 Program dnia. 7.30 Program muzyczny. 8.50 Przegląd międzynarodowy. 9.15 Spektakl. 10.40 Człowiek. Ziemia. Wszechświat. 11.00 Filmy animowane. 12.25 Film fab. 14.00 Białe i czarne. 14.30 Koncert. 14.45 Otwarcie Festiwalu w Berlinie. 19.00 Czas. 19.30 Koncert. 20.55 Film krótkometrażowy. 21.30 Program sportowy.

**Niedziela, 29 lipca**

7.00 Program dnia. 7.30 Bajka dla dzieci. 9.40 Filmy animowane. 11.40 Spektakl teatralny. 15.00 Klub filmowy. 16.00 Piłka nożna CSKA — „Spartak" (Moskwa). 19.00 Czas. 19.30 Na Festiwalu w Berlinie. 20.15 Mistrzostwa Świata i Europy. Wioślarstwo.

Людзі добрай работы

## ФРАНЦІШАК ПАГАЖЭЛЬСКІ

Ураджэнец вёскі Адрынкі Гайнаўскага павету, Францішак Пагажэльскі належыць да перадавых гаспадароў. Вядзе ён 17-гектаравую гаспадарку. Найбольш сее жыта і аўса, а таксама садзіць бульбу. Дзяржаве прадае штогод па дзве тоны жыта і тры тоны бульбы. Свіней прадаў ён на пункце скупкі ў мінулым годзе 9 штук, а сёлета дзве. У гэтым годзе прадасць ён яшчэ тры каровы і некалькі штук свіней.

Францішак Пагажэльскі мае шэсць гектараў добрых тарфяных сенажацяў і гадуе 10 кароў. У будучыні намераны гадаваць штук 15. Кармоў у яго ўдосталь, а злеўня малака ў гэтай жа вёсцы на месцы. Апрача кароў адрынскі гаспадар гадуе больш 20 авечак. У яго добрыя аборы і новая, пабудаваная ў гэтым годзе клуня.

За выдатныя вынікі ў раслінаводстве і жывёлагадоўлі Францішак Пагажэльскі ў 1970 годзе быў узнагароджаны Бронзавым крыжам заслугі. Вядзе ён доследныя палеткі са збожжавымі культурамі, цікавіцца перш за ўсё новымі сартамі жыта, аўса і бульбы, рознымі агратэхнічнымі навінкамі. Веды свае паглыбляе дзякуючы сельскагаспадарчым часопісам і кніжкам. Усю работу ў хаце і дома старацца механізаваць. Мае электрычны парнік, млынок, крайзэгу, сячкарню, касілку, зграбалку, бульбакапалку і іншыя машыны.

Францішак Пагажэльскі выконвае таксама рад грамадскіх функцый. З'яўляецца старшынёю мясцовага сельскагаспадарчага гуртка, начальнікам мясцовай добраахвотнай пажарнай каманды і грамадскім апекуном. Усе тут яго паважаюць і цэняць. Два старэйшыя сыны Францішка Пагажэльскага, беручы прыклад з бацькі, добрага гаспадара, пайшлі вучыцца: адзін у Сельскагаспадарчы тэхнікум у Дайлідах, а другі ў Водна-меліярацыйны тэхнікум у Беластоку. Мае ён яшчэ аднаго сына і дачку. Наймалодшы сын у гэтым годзе заканчвае навуку ў мясцовай пачатковай школе, а дачка — бельскі ліцэй медсясцёр. Усе яны вельмі добра вучацца.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

## Старасць...

Як жа часта людзі любяць паўтараць: з думкай пра чалавека, з пашанай да чалавека, апека над чалавекам і г.д. і г.д. Усе гэтыя словы маюць асаблівае значэнне ў нашай краіне, дзе, як ведаем, ніводзін бяздомны, хворы, адзінокі не можа застацца без апекі. Дзяржава наша дае велізарныя сумы грошай на грамадскую апеку. Чаму ж тады паяўляецца гэты наш артыкул? Бо ім мы хочам паказаць, як патрэбна ў нас больш арганізаваная, чым дагэтуль, грамадская апека, што нямала яшчэ ёсць у нас людзей, якім патрэбна добрае сэрца нашага грамадства.

У вялікай вёсцы (два солтысы) Клейнікі, недзе пасярэдзіне вёскі, насупраць кіёска, за высокім дзікім пустазеллем сядзіць нібы-хатка. Побач — шаша Бельск — Нарва. Жывуць тут дзве старыя жанчыны-сёстры: Тэкля Наумюк — 86 ці 88 год (хто ж гэта ведае) і Мінадора Пракапюк — 83 ці больш год. Жывуць тут даўно, мо ад нараджэння. Малодшую, Мінадору, мы засталі седзячай на прызбе. Яна яшчэ апошнімі сіламі можа вылезці са сваёй нары на веснавое сонца. Людзі, якая ў яе адзежа! Гэта нейкія анучы, якія некалі, вельмі даўно, былі нязграбна пасшываны ў нешта падобнае да спадніцы ці блузкі. На каленях паморшчанай бабулькі — маленькія кавалачкі сухога, падплеснелага хлеба. Рукі і твар — у несамавіта чырвоным колеры сырога бурака. Небарака, каб пазбыцца пачуцця голаду, ела сырыя буракі...

Добры чалавек, стары жыхар Клейнік, дапамог нам у размове з сёстрамі. Завёў нас у іх нібы-хатку: цёмную, смярдзючую, вільготную, куды ніколі не заглядае аніводзін прамень сонечнага святла. Хатка асела глыбока ў зямлю. Падлогі ў ёй ніколі не было. Адны пацукі, проста на нашых вачах, зусім не баючыся прысутнасці чалавека, вандравалі на цёмных кутках.

Чалавек, які нам спадарожнічаў, сказаў: „Яны гэтак жывуць даўно. Ад акупацыі — напэўна!" — і неяк безнадзейна махнуў рукой. Старэйшая з сясцёр, Тэкля, зусім сляпая і глухая, даўно ўжо не выходзіць з хаты, ляжыць або сядзіць на беразе чагосьці, што калісь, мабыць, называлася ложкам.

Прайшло 28 год ад заканчэння вайны. Людзі ў краіне абжыліся. А дзве старыя няшчасніцы ў сваёй адзіноце засталіся на граніцы галоднай смерці. Праўда, малодшая з іх кажа, што людзі прыносяць, што людзі не забываюць, што і іхняя выхаванка дае ім ежу. Тут малое выясненне: калі жанчыны былі маладзейшыя, узялі на выхаванне дзяўчыну-сірату. Прайшоў час. Выхаванка выйшла замуж у другую вёску, часам наведваецца да сваіх апякунак, тое-сёе прывязе, але ёй і самой нясоладка жывецца — яна калека.

Пачалі мы распытвацца ў людзей, хто ў іхняй вёсцы з'яўляецца грамадскім апекуном (апякун спалэчны). Ён жа, думалі, як чалавек уражлівы, не мог дапусціць, каб доўгія гады ва ўсіх на вачах працвітала нэндза і галеча. Людзі доўга не маглі ўспомніць, хто ў іх апякун. Нарэшце, нейкая жанчына прыпомніла, што, здаецца, Аляксей Касцючук. Пан Касцючук гаварыў з намі даволі востра і зусім не выглядаў на ўражлівага чалавека. „Справа ў току", — сказаў ён найперш. А потым многа гаварыў іншых слоў, якія ў ніякім выпадку не памаглі ані нам, ані сабраўшымся каля нас ужо многім людзям зразумець, як доўгія гады ў вёсцы, дзе існуюць розныя арганізацыі і ўстановы, дзе ёсць два солтысы, дзе да канца мінулага года была ГРН, дзе ёсць, урэшце, грамадскі апякун, пастаўлены дзяржавай дзеля таго, каб пільнаваць гэтыя справы, што ў такой вёсцы могуць быць людзі, пакінутыя без дапамогі.

Вярнуўшыся ў рэдакцыю, мы пазванілі ў аддзел здароўя і грамадскай апекі ППРН у Гайнаўцы. Гаварылі з чалавекам, які гэтую справу цяпер вядзе. З размовы з гэтым чалавекам мы даведаліся, што ад першага чэрвеня прызнана ўжо 770 зл. пастаяннай дапамогі на адну з сясцёр. „Адносна другой, — сказаў ён, — будзем старацца, каб яна атрымала часовую дапамогу".

Часовую дапамогу! А чаму ж часовую? Нам здаецца, што наш размоўца з Гайнаўкі зрабіў тую ж самую памылку, што і клейніцкі грамадскі апякун: менавіта, яны баяцца, што старыя жанчыны не будуць ведаць, што зрабіць з такой сумай грошай. Але нельга забываць, што абедзве жанчыны не толькі не маюць чаго есці, але не маюць на чым спаць і ў што адзецца, што ім пільна патрэбна лекарская дапамога, а нібы-хатцы — неадкладны рамонт. Хатку трэба вычысціць, павыганяць пацукоў і мышэй, знішчыць вашэй. Колькі ж на ўсё гэта трэба грошай!

Таму лічым, што і другая з сясцёр павінна атрымаць як найбольш рэгулярную дапамогу, прычым, як найхутчэй, або, прынамсі, адразу большую суму грошай на загаспадаранне. Зрэшты, грашыма будуць жа распараджацца не самі старыя, а дзве настаўніцы клейніцкай школы Генрыка Пракапюк і Зоя Блізнюк — недалёкія суседкі старушак. Гэтыя настаўніцы ўжо даўно апякуюцца бабулькамі, часта арганізуючы з вучнямі збор ежы для старых, стараюцца разам з вучнямі неяк даглядаць іх. Але галоўная справа — патрэбны грошы на ежу, пасцель, адзенне. Настаўніцы пісалі ў гайнаўскі аддзел здароўя і грамадскай апекі. І вось, пасля доўгіх стаханняў, прызнана першая сталая дапамога — першыя 770 зл. Калі настаўніцы ўмелі да гэтага часу арганізаваць з нічога нейкую, хоць мінімальную дапамогу, дык ужо напэўна будуць ведаць, як найкарысней для старых выдаць прызначаныя ім дзяржаўныя грошы.

Адзінай узнагародай для іх будзе ўласнае задавальненне, што ўдалося дамагчы людзям, што высокае пачуццё чалавечнасці да людзей могуць выхоўваць у сваіх вучняў. Удзячны ім за гэта не толькі старыя і хворыя бабулькі, але і ўсе жыхары вёскі, якія з вялікім цяжарам у сэрцы спаглядалі ў бок хаткі-нары.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Вера Леўчук**

## Ф-А-Л-Ь-К-Л-О-Р

### ЖАРТОЎНАЯ

Allegretto

А ў мі-сэ-ці сэн-тэ-брэ ў-па-ла по-ро-са.
Дієд ба-бу по-лю-бій, што ба-ба хо-ро-ша!

*А у місэці сэнтябрэ ўпала пороса.*
*Дієд бабу полюбій, што баба хороша!*
*Дієд бабу полюбій, што баба хороша.*
*І сліепая, і крывая і бэз рукі правой:*
*Ой, направду, я й нэ бачыў такой бабы бравой.*
*Ой, направду, я й нэ бачыў такой бабы бравой.*
*Подівівся дієд на бабу, на бабіну ўроду —*
*Завіоў ее пуд мосток і піхнуў у воду!*
*Завіоў ее пуд мосток і піхнуў у воду.*
*— О, тут, бабо, кайся, о, тут, покупайся,*
*А я пойду ожэнюся, а ты оставайся!*
*А я пойду ожэнюся, а ты оставайся.*
*А што баба прыхнэ, то дієд кіём свіснэ*
*Потуль баба булькотала, покуль зусім нэ пропала.*
*Потуль баба булькотала, покуль зусім нэ пропала.*
*Коло млына на крэмэню крэмэнь воду рэжэ.*
*Ідэ дієд з вэсэлём — баба з воды лезэ!*
*Ідэ дієд з вэсэлём — баба з воды лезэ.*
*— Чы ты, дієду, упіўся, чы ты іскрутіўся?*
*А я пошла купатіся, а ты ожэнівся!*
*А я пошла купатіся, а ты ожэнівся.*

Ад Сакоўскай Веры, 1925 года нараджэння, і Гацуты Веры, 1926 года нараджэння, — абедзве з вёскі Новакорніна Гайнаўскага павету — запісаў 9 мая 1973 года Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

## РАЗМОВА З СОЛТЫСАМ

Вось і вёска Целушкі, над рэчкай Нарвай. Сама Нарва ўся ў зялёных высокіх карчах лазіны, крута ўецца сярод лугоў, дзе на ўсялякія галасы крычаць, свішчуць і шчабечуць птушкі. А вада ў рацэ чыстая, як сляза, праз яе нават рыбу бачыш. Пах травы, свежае паветра, празрыстыя воды ракі робяць уражанне, як бы чалавек апынуўся ў раі.

*

Солтыс вёскі Павел Марчук прыняў нашага карэспандэнта, радасна. „Хочаце пагаварыць пра вёску? — Калі ласка!".

— Колькі гаспадароў у вёсцы, колькі зямлі маюць і як гаспадараць?

— У нас цяпер 72 гаспадаркі. Разам гаспадарым на 800 гектарах. Калісь было крыху больш гаспадароў у вёсцы, ды некаторыя пакінулі зямлю і паехалі ў горад. Даўней тут была цераспалосіца. Зямля ляжала ў доўгіх і вузкіх загонах і ў кавалках. Ад 1971 года і да нас дайшла камасацыя. Прайшло, бачыце, толькі 2 гады, а якая велізарная пазнака зрабілася ў вёсцы. Дзякуючы камасацыі і раней праведзенай меліярацыі, ды штучным угнаенням мы цяпер збіраем столькі збожжа, што яно нам у стадолы не змяшчаецца, а бульбы і не перабярэш, хаця зямля ў нас слабая — V і VI клас.

Калісь сярэдні гаспадар на паўучастку (7—8 га) трымаў 1—2 дойныя каровы, якія з недахопу пашы давалі мала малака. Цяпер на тым жа паўучастку трымаюць 3—4 дойныя каровы плюс маладняк — 1—3 штукі. Вёска штодзень прадае для адной толькі малачарні 1300 літраў малака. А ёсць гаспадары, што самі прадаюць па 30—40 літраў у дзень.

— А як у вас з мясам?

— Таксама добра ідзе. Я як солтыс выдаю квітанцыі на жывёлу, якую гаспадары вядуць на пункт скупкі ў Рыбалах. Штомесяц выдаю па 100 і больш квітанцый на свіней і па 50 і больш квітанцый на быдла. Гэта ў 2 разы перавышае колькасць, якую аддавалі мы ў час абавязковых паставак. Свіней у нас гадуюць многа. Некаторыя гаспадары толькі на скупцы прадаюць па 10—15 вепрукоў у год. Прадаем яшчэ і збожжа дзяржаве. Разы ў 2—3 больш, чым калісь. А бульбы ў 5 разоў больш.

— Ваша вёска славіцца вырошчваннем агуркоў...

— Вёска наша з давен-даўна садзіць і прадае агуркі. Дзякуючы добрым агародам над рэчкай, яны ў нас добра растуць. Частку іх летам развозім і прадаем у Беластоку, Бельску, Гайнаўцы і па іншых рынках. А шмат агуркоў засольваем на зіму і топім у вадзе. У нас кожны гаспадар гэтым займаецца і засольвае ад 5 до 10 бочак. Зімою ці вясной прадаем іх.

— На недахоп работы, чую, не наракаеце?

— Работы, праўда, ёсць многа. Вось улетку, калі прыдзе рабочая пара, то работы тады поўна. Трэба і ў полі ўправіцца, і дома ўсё нарыхтаваць і накарміць жывёлу. Такой рознай дробнай гаспадарскай работы ніякімі машынамі не заменіш. Многа трэба рабіць рукамі. А тых рук на вёсцы мала. Моладзь у нас уся вучыцца ў школах. Пасля васьмі класаў ідзе далей. Што ж зробіш, такая ім дарога. Але калі вывучацца, дык на гаспадарку ўжо вяртацца не надта хочуць, хоць бы на вёсцы было і найлепш. А чаму? Добра было б, каб аб гэтым урад паклапаціўся, бо і нам патрэбны разумныя людзі...

Размову вёў **М. Матвеюк**

## Этнаграфічнае акенца

*Хата Уладзіміра Гаўрылюка з вёскі Целушкі Беластоцкага павету.*
*Фота Я. Цялушэцкага*



КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# Палац спорту

Калі вам давядзецца быць у Мінску і запытацца ў першага чалавека пра горад, кожны мінчанін з гонарам пакажа вам будынкі тэатраў, філармоніі, музеі. А пад канец запрапануе вам прайсціся па шырокай асфальтаванай Паркавай магістралі, дзе паявіўся новы будынак Палаца спорту, пабудаваны з бетону, алюмінія і шкла.

Дык давайце зойдзем у гэты будынак і зробім невялікую экскурсію па ўсіх чатырох яго паверхах.

Па бетонных ступеньках паднімемся на люстраную пляцоўку, адкрыем дзверы і апынімся ў вестыбюлі. Тут яркія праменні сонца заліваюць памяшканне, а чыстае прахладнае паветра робіць чалавека бадзёрым. Апынуўшыся на трыбунах, мы ўбачым чарговы матч хакеістаў. Чатыры тысячы гледачоў размясціліся ў зручных, падыходзячых аж да столі каляровых крэслах, уважна сочаць яны за ходам барацьбы хакеістаў на ледзяным полі. Прама перад трыбунамі — светлае табло, вялізны гадзіннік-секундамер і акно радыёкаментатарскай кабіны. Столь тут зроблена са спецыяльнай шклотканіны. Цяпер з яе льецца мяккі блакітнаваты свет. І пры жаданні варта толькі націснуць на кнопку пульта кіравання, як магутныя электралябёдкі „вывернуць" яго „навыварат" і тысячы праменняў усіх колераў вясёлкі асвецяць залу. Так ужо было, калі замест хакеістаў на ледзяным полі выступаў ансамбль „Балет на ільдзе".

Гонарам будаўнікоў Палаца з'яўляецца навейшая радыёгукавая акустычная ўстаноўка. Спецыяльныя акустычныя пліты, устаноўленыя ў сценах, дазваляюць слухаць выступленні артыстаў. Палац жа прызначаны не толькі для спорту. Дастаткова зрабіць толькі невялікую рэканструкцыю, і памяшканне становіцца канцэртнай залай на шэсць тысяч месц і вялікай сцэнай.

На другім паверсе мы сустрэнем мноства малых і вялікіх пакояў: службовыя памяшканні, буфеты, радыёрубка, пакой прэсцэнтра, камфартабельнае кафэ на 300 месц.

Праходзячы далей па доўгаму і светламу калідору, мы пачуем далікатную мелодыю вальса, якая даносіцца з трэцяга паверху. Тут дзяўчаты ў яркіх гімнастычных касцюмах пад кіраўніцтвам вопытных трэнераў апрацоўваюць элементы мастацкай гімнастыкі. Не будзем ім перашкаджаць і наведаем другую залу, дзе чуваць баявыя воклічы і звон шпаг. Тут трэніруюцца чэмпіёны свету па фехтаванню Таццяна Самусенка, супругі Дыяна і Аляксей Нікачыкавы, уладальнікі прыза мацнейшых шпажыстаў свету, і іх маладыя сябры — шпажысты.

А цяпер пабываем на самым ніжнім паверсе. Тут таксама ясна, цёпла і ўтульна. Малады рабочы, не спяшаючыся, праходзіць паміж магутнымі кампрэсарамі, чуйна прыслухоўваючыся да іх багатырскага дыхання. А побач зала з вентыляцыйным абсталяваннем, яшчэ далей — электрашчыты, рубільнікі і пульты кіравання складанай электрагаспадаркай.

Каб паўней уявіць сабе аб'ём Палаца спорту, скажам што яго гаспадарку абслугоўвае 200 чалавек, абсталяванне для яго пастаўляла 70 прамысловых прадпрыемстваў Савецкага Саюза.

Мінскі Палац спорту — адно з цудоўнейшых будынкаў беларускай сталіцы. І праектавалі яго самі мінчане. Гэта маладыя архітэктары Сяргей Філімонаў, Валянцін Мальшаў і Валянцін Кажанеўскі. У Палацы спорту зімой і летам можна цудоўна адпачыць: паглядзець спаборніцтвы гімнастаў, валейбалістаў, баскетбалістаў, хакеістаў, паслухаць канцэрт прафесіянальных і самадзейных артыстаў.

ДЗМІТРЫЙ БОЛДЫРАЎ



## Куток практычных ведаў




### У ЛЕТНЮЮ СПЯКОТУ

Выдзяленне поту з'яўляецца нармальнай і правідловай функцыяй арганізму. У часе летняй спякоты мы пацеем аднак асабліва моцна, паколькі такім чынам арганізм рэгулюе цеплыню цела. Усе мы таксама ведаем, што выдзяляючыся пот мае непрыемны запах. Што рабіць, каб і нам і людзям, якія з намі сутыкаюцца, не было непрыемна ад гэтага?

Першай і асноўнай умовай з'яўляецца старанная штодзённае мыццё. Але гэта не ўсё. Людзі, якія асабліва моцна пацеюць, павінны пастаянна прымяняць супрацьпотныя сродкі, так званыя „дэзадаранты", а яны ёсць у продажы. Прэпараты гэтыя не затрымліваюць выдзяленне поту (было б гэта, зрэшты, шкоднае для арганізму), але дзейнічаюць дэзінфекуюча і ліквідуюць непрыемны запах.

У магазінах можна знайсці тры віды гэтых сродкаў: крэм, штыфт і вадкасць. Найбольш універсальным з'яўляецца апошні, паколькі можна ім спрыскваць усё цела. Вадкасць гэта, зрэшты, мае падобны да адэкалону прыемны запах.

Супрацьпотнымі сродкамі, як крэм і штыфт, змазваем галоўным чынам скуру пад пахамі альбо ногі.

Варта яшчэ раз падкрэсліць, што ўсе супрацьпотныя сродкі можна прымяняць толькі пасля таго, як мы старанна памыем цела. На лета добра пабрыць валасы пад пахамі, тады лягчэй будзе ўтрымаць цела ў чысціні. Перад галеннем скуру пад пахамі трэба добра намыліць, а пасля галення спырснуць адэкалонам ці саліцылавым спіртам.

Бываюць людзі, вельмі чулыя на некаторыя супрацьпотныя сродкі. Скура пад уплывам іх становіцца чырвоная і паяўляецца сып, якая вельмі свярбіць і выступае найчасцей пад пахамі. У такіх выпадках трэба на некалькі дзён спыніць прымяненне прэпарату, а пасля таго, як сып знікне, спрабаваць прымяніць іншы сродак. Калі ж аднак і на гэты раз скура пачырванее, трэба будзе зусім адмовіцца ад прымянення хімічных супрацьпотных сродкаў. У такіх выпадках трэба мыцца асабліва старанна, а пры моцнай спякоце нават і некалькі разоў у дзень, найлепш мылам „Ора", якое дэзінфекуе скуру. Месцы пад пахамі пасля кожнага мыцця трэба засыпаць касметычным талькам.

З'ява алергіі пасля прымянення супрацьпотных хімічных сродкаў здараецца аднак рэдка, таму варта, каб у кожнай хаце, побач з мылам і зубной пастай, апынуўся „дэзадарант", сродак, які ліквідуе непрыемны запах поту.

Эскулап







— Зразумела, не. Не пазней заўтрашняга вечара мы ўжо атрымаем першыя паведамленні ад групы „Цыклон-Поўдзень", — адказаў генерал.

Крэбс і Кальтэнбрунер пагаварылі аб іншых справах. Але ў канцы размовы начальнік СД зноў напомніў:

— Дык у стаўцы будуць чакаць паведамленняў пра „Цыклон".

Паклаўшы трубку, Крэбс задумаўся. Значыць, выконваць гэты план павінны армейскія сілы, а вяршкі будуць браць СД! Ну, нічога, ён знойдзе магчымасць даказаць, што аперацыю арганізаваў асабіста ён, Крэбс, больш ніхто. Але перш за ўсё трэба паскорыць яе пачатак.

Ён загадаў свайму ад'ютанту тэлеграмай запытаць штаб-кватэру абвера, калі капітан Шварцбрук накіраван у рускі тыл.

Прачытаўшы тэлефанаграму, оберштурмбанфюрэр Клец схапіўся за галаву. Мельцар, даведаўшыся ў чым справа, усхвалявана замітусіўся па бункеры.

— На працягу некалькіх гадзін Крэбс ужо двойчы пытаецца пра гэтага капітана. А дзе ж ваш Лібель? — спытаў у Мельцара оберштурмбанфюрэр, — чалавек, а тым больш афіцэр — гэта не іголка ў сене! У свой час у Гамбургу мы знаходзілі любога за дзве гадзіны. А цяпер ужо восем!

Але вы забываеце пра сучасную абстаноўку. Лібель таксама дастаткова вопытны чалавек. Вы яшчэ мала ведаеце людзей абвера.

— Я калі-небудзь дакажу вам адваротнае, дарагі падпалкоўнік.

— Не ўпэўнен! Пакуль што вы сваім паспешлівым дакладам паставілі і сябе і нас у няёмкае становішча. У нашым распараджэнні застаецца максімум тры-чатыры гадзіны. А дзе Шварцбрук?

— Гэта я ў вас павінен спытаць!

Спрэчкі працягваліся даволі доўга. Мельцар быў у душы задаволен тым, што Клец трапіў у няёмкае становішча. Гэта паслужыць яму ўрокам, не будзе лезці не ў свае справы. Падпалкоўнік быў цвёрда ўпэўнен у тым, што са Шварцбрукам нічога сур'ёзнага не здарылася. Калі б капітан загінуў у час бамбёжкі, то першы ж санітар або патрульны, убачыўшы труп афіцэра, неадкладна далажыў бы аб гэтым начальству. Безумоўна, капітан жывы. Можа ён сышоў памылкова на адну станцыю раней, а можа, не дачакаўшыся Лібеля, паехаў у Берлін. Мельцар быў упэўнен, што не пазней заўтрашняй раніцы Шварцбрук дасць аб сабе знаць.

Калі б зазірнуць у думкі оберштурмбанфюрэра Клеца, то ў іх можна было б убачыць поўны сумбур. Ён разумеў толькі адно: калі Шварцбрук у бліжэйшыя тры-чатыры гадзіны не будзе знойдзен, то яму, Клецу, пагражаюць вялікія непрыемнасці. Ён зусім не быў упэўнен, што Лібель зможа знайсці прапаўшага афіцэра, і з кожнай мінутай станавіўся ўсё больш злосным, забыўшыся аб сваёй паліцэйскай ветлівасці.

Мельцар быў задаволен гэтым, ведаючы, што оберштурмбанфюрэр у яго ў руках. Ён пачаў намякаць на тое, што мог бы ўжо цяпер далажыць аб знікненні Шварцбрука генералу Крэбсу.

Стары гадзіннік на сцяне кабінета прабіў дзевяць.

Мішэль сустрэў Лібеля з расшыфраванай радыёграмай у руках.

— Масква просіць крыху затрымаць вылет камандзіра групы „Цыклон-Поўдзень". Але мне і самому не зразумела, як доўга мы зможам цягнуць з гэтымі пошукамі. Можа мы прапануем ім наш план?

— Не спяшайся, я перадаў сёння сёетое Фрэду, мне здаецца, што ў цябе цяпер ёсць зручны выпадак вярнуцца да нашых. Аднак трэба ўсё добра абдумаць. Экспромты добра іграць на раялі, а мы з табой не піяністы.

Лібель узяў запіску з шыфрам і акуратна спаліў яе над попельніцай.

— Але ж пакуль усё складваецца ў нашу карысць? — Мішэль сеў бліжэй да стала.

— А ты ведаеш такую рускую прымаўку: „Сем разоў адмерай — адзін раз адрэж"? Давай спачатку мераць. Пачнём зверху. Цягні партфель Шварцбрука.

Яны схіліся над сталом, разбіраючы паперы, што былі ў партфелі. Іх цікавіла ўсё: і пісьмы, і невялікія запіскі, і копіі рахункаў. Тут ляжаў пакет на імя падпалкоўніка Мельцара. План „Цыклона" не быў, вядома, навінкай для Лібеля. Праз знаёмых афіцэраў ён ведаў яго і ў агульных рысах і сёе-тое з дэталей. Ён, напрыклад, чуў, што эпізод „Цыклон-Поўдзень" быў задуман нядрэнна: Яго аўтары ўлічылі, што па дарогах Украіны ўглыб савецкай тэрыторыі ў той час пастаянна ішлі калоны нямецкіх ваеннапалонных. Пад выглядам такой калоны і павінна была пайсці па савецкіх тылах гэта група дыверсантаў абвера. Начальнікам канвою павінен быў стаць Шварцбрук, пераапрануты ў форму старшага лейтэнанта МУС. Лібель і Мішэль знайшлі ў партфелі пасведчанне войск МУС на імя Віліса Дуціса з фатаграфіяй нябожчыка-капітана.

— Значыць, Шварцбрук з акцэнтам гаварыў па-руску, яны, відаць, хацелі выдаць яго за латыша, — сказаў Лібель.

— І я таксама гавару з акцэнтам, — зазначыў Мішэль.

У асобным пакеце ляжалі чырвонаармейскія кніжкі, харчовыя атэстаты,

# ТРЫБУНА чытачоў

## Клопаты з малаком

Вёска Целушкі штодзень дастаўляе ў малачарню 1300 літраў малака. Малачарня аднак знаходзіцца ў вёсцы Давідаўцы, а гэта каля 5 км дарогі. І штодзень гаспадары Цялушак самі возяць гэтае малако ў Давідаўцы. Мы ўжо не раз прасілі, але не можам дачакацца, каб у нашай вёсцы зрабілі злеўню малака. Колькі каштоўнага гаспадарскага часу і нерваў можна было б сэканоміць!

**М. Матвеюк**




### ГУЛЬТАІ І АБІБОКІ

Дзе не пойдзеш, агляніся,
Абібокі развяліся.
Абібокі і лінагуз
Дзісь вялікі пан і туз.

Ён чупрыну бабску носіць,
Як бы дзеўчынай ён быў,
А на шыю на кашулю,
Шчэ й пацёркі налажыў.

Ён палітыку ўсю знае,
Як пачаць і што рабіць,
Заўжды жыцце напраўляе,
Каб яму было лепш жыць.

Не, рабіць ён сам не хоча,
А шукае ўсё дурнёў.
Сам на піва заваліцца,
Будзь вясёлы, будзь здароў.

Кнайпа з півам ці гарэлкай,
Для яго — то добры дар.
Тут таварышаў спаткае
І пачуецца, як цар.

П'е гадзіну, дзве і болей,
Заўжды мае на то час.
А работа, што чакае?
Э там, зробіцца без нас!

Колькі піў, не разумеў,
І нарэшце адурэў.
На ілбе адны каўтуны,
Хоць шукай дзе бараны.

Акуляры з носа ўпалі,
Нарабілі шмат бяды,
Бо ў пацёркі упляліся
і павіслі на грудзі.

На яго глядзець так збрыдла,
Хоць ў каноплі пасадзі,
Быў падобны б на страшыдла
І страшыў бы вараб'і.

Хопіць нам ужо аглядаць
Абібокаў, гультаёў,
Трэба з кнайпы ўсіх іх гнаць,
Да работы прымушаць!

За работу ўзяцца ўраз,
Слухаць добрае парады,
Так нам раіў дзядзька Квас
І мы таксама раім.

**М. Матвеюк**

патрабаванні для перавозкі па чыгунцы.

Усё было зроблена чыста. Лібель доўга з прафесіянальнай цікавасцю разглядаў дакументы.

— Усё зроблена на сапраўдных савецкіх бланках. Цяжка прычапіцца, — сказаў ён.

Была ў партфелі і карта, на якой нецярпліві капітан Шварцбрук ужо адзначыў ледзь прыкметным пунктырам маршрут групы.

— Так, — сказаў Лібель, — вывад можна зрабіць такі: да гэтай групы цяпер прыкавана ўвага начальства, таму што яна — першае звяно ўсяго плана „Цыклон". Вось чаму Шварцбрука засылаюць праз Берлін. Ці выгадна нам, калі гэта група адразу праваліцца? Зменяць начальства, могуць змяніць і мяне.

Лібель устаў і прайшоўся ўздоўж стала.

— Я сёння страшэнна стаміўся. Даўно я не трапляў у такі пераплёт.

— Можа хочаш кавы? — Мішэль пайшоў на кухню. А Лібель сеў у крэсла і задумаўся. Што яны цяпер маюць: ёсць паказанні кандуктара і гэтага Гарднера пра капітана, ёсць яшчэ спіс машын, які можна праверыць.

— Але ўсё гэта не галоўнае, не галоўнае... — сказаў ён уголас.

— Што не галоўнае, Карл? — адгукнуўся з кухні Мішэль.

— Ды тое, над чым мы з табой ламаем галаву. Галоўнае, што няма Шварцбрука. Засталіся толькі мундзір і партфель.

**(Працяг будзе).**

## ЗЯЛЁНАЕ БАГАЦЦЕ

15 год таму назад было тут чыстае поле. Рос слабенькі авёс і ячмень, жыта і бульба. Потым людзі пабудаваліся. Так узнікла ў Бельску вуліца Ганкі Савіцкай і Марыі Канапніцкай. Новыя жыхары на невялікіх палетках ужо не сеялі каласавых, а перайшлі на больш даходныя расліны: памідоры, раннюю і позню капусту, калафёры, пятрушку, моркву, салеры, поры і іншую гароднiну.

Новыя агароднікі адзін перад другім стараліся вырасціць смачнейшыя памідоры, вельмі раннюю капусту, т.зв. ліпцоўку, і смачныя манастырскія агуркі. Першымі тут былі: Аляксей Крышпінюк, Васіль Зайкоўскі, Лідзія Лапцава, Ольга Тышук, М. Клачкова. Выраслі шкляныя цяплярні, інспектавыя скрыні, а ў апошні час Васіль Зайкоўскі пабудаваў вялікую цяплярню з фоліі, якая абаграваецца сонечнымі праменнямі. Позняй гародніны ў Бельску так многа, што хапае не толькі для горада, але шмат вывозіцца самаходамі ў Беласток, Гайнаўку, Бранск, Нарву, Нараўку і Белавежу. Паўстаў тут, як кажуць, зялёны басейн.

За прыкладам гэтых агароднікаў пайшлі іншыя, якія таксама вырошчваюць на дратах памідоры і даюць на рынак многа розных флянцаў, якіх хапае і гораду, і навакольным вёскам. Мне здаецца, што гэта добры пачын і трэба, каб больш жыхароў узялося за працу на палях, якія тут жа побач ляжаць аблогамі.

Бельскія агароднікі вядуць доследы. Напрыклад, ад 1 да 15 лютага ў данічках з фоліі вырошчваюць раннюю бульбу, а як толькі абсохне зямля, яе высаджваюць на поле. Ужо ў чэрвені можна яе спажываць, а калі пакінуць да восені, тады пераканаешся, які высокі ўраджай можна атрымаць з гектара. Або справа з ранняй капустай. Пасля яе, як другі ўжо плён, можна садзіць прарошчаную бульбу, якая да восені дасць добры ўраджай. Замест бульбы можна пасеяць мяшанку лубіну, сланечніка і кукурузы на сілас. Можна па капусце пасеяць рэпу ці брукву. Значыць, з аднаго поля можна атрымаць два плёны.

**Нестар Перавой**




### ДАРАГОЕ „СЭРЦАЙКА"!

Два гады таму назад я закончыла засадніцую трохгадовую школу і адразу пайшла на работу ў горад. На працу не наракаю, зарабляю таксама нядрэнна. Пакуль што жыву на прыватнай кватэры, але хутка атрымаю ўжо спулдзельчую кватэру. Пару месяцаў таму назад я пазнаёмілася з Віцем, які вучыцца ў вышэйшай школе ў Варшаве. Яшчэ засталося яму два гады вучобы і будзе ён мець вышэйшую адукацыю. Віця не раз мне гаварыў, каб я ішла вучыцца далей, гэта значыць, у вячэрні тэхнікум. Я цяпер маю шмат свабоднага часу і магла б яго выкарыстаць на вучобу. Віця гаворыць, што калі закончыць ён школу, мы пажэнімся. Па-мойму, два гады — гэта доўга, хто ведае, ці там у Варшаве нейкая іншая яму галава не закруціць. А ведаю, што калі я захачу, каб ажаніцца ў хуткім часе, Віця на гэта згодзіцца. Парай, „Сэрцайка", што мне рабіць, ці нагаварваць Віцю, каб жаніўся, ці паслухаць яго рады і пайсці вучыцца?

**Зіна з Б.**

**Зіна!** Я поўнасцю падтрымліваю Віціны прапановы. Яго разумная рада напэўна ў будучыні выйдзе табе на карысць. Вучыцца ты павінна абавязкова. Цяпер у цябе на гэта найлепшы час. А з замужаствам не спяшайся. Надта мала вы знаёмы. Вы яшчэ павінны пераканацца ў трываласці вашых пачуццяў, пазнаць дакладней адзін другога, а на гэта ўжо трэба крыху часу. І мне здаецца, што гэтыя два гады — гэта зусім не многа. За гэты час Віця закончыць школу, ты будзеш канчаць тэхнікум, атрымаеш кватэру. Вось тады будуць усе ўмовы да жаніцьбы. Тады вы зможаце ўжо разам жыць, а гэта вельмі важна, бо такое жыццё, калі, як кажуць, „адно ў стрэсе — другое ў лесе", рэдка каму на добрае выйшла.

**„Сэрцайка"**

## ДЗЕЛА МАСЦЕРА БАЦЦА

# Дыспетчар

Ужо другі год Ян Красноўскі займае пасаду дыспетчара ў сельскагаспадарчым гуртку ў Дубічах Царкоўных. Працаўнік ён сумленны. Да веснавых работ усе машыны і прылады былі дагледжаны і адрамантаваны. Работа ў полі ішла добра і без перапынку. Машынамі з дубічацка сельгасгуртка карысталіся гаспадары з іншых вёсак. І ўсе задаволены, бо Красноўскі, як скажа чалавеку, калі ён атрымае машыну, слова заўсёды стрымае.

Сенакос прайшоў спраўна. Многія наймалі трактарныя касілкі, сярод іх былі нават тыя, што мае ўласныя — конныя. Казалі, што не аплачваецца канём цягнуць машыну.

Машыны сельскагаспадарчы гурток мае такія: 6 трактараў (сёмы хутка прыбудзе), 4 апырсквальнікі, 3 снопавязалкі, 3 капачкі, 3 абмалотачныя агрэгаты.

Да жніва гурток таксама падрыхтаваўся. Ян Красноўскі любіць парадак і дысцыпліну на сваім „кулковым" панадворку. І гэта відаць. Трактарысты тут не запіваюцца, як гэта бывае ў іншых сельгасгуртках. З пашанай гавораць пра працу дыспетчара прэзас гуртка Мікалай Герасімюк.

**Мікалай Панфілюк**

## НАШЫ ПАМОЧНІКІ

# СЦЯПАН КОТ



15 год ужо Сцяпан Кот кіруе працай пошты ў Клейніках, у Гайнаўскім павеце. Пад яго кіраўніцтвам пошта займае перадавое месца ў сваёй акрузе. Пра добрую яе працу сведчаць дыпломы, якія вісяць на сценах.

Сцяпан Кот робіць многа намаганняў у распаўсюджванні „Нівы". У даны момант выпісалі тут людзі 209 экземпляраў гэтай газеты і ёсць прызнакі, што тыраж „Нівы" будзе расці.

Начальнік Сцяпан Кот многа часу прысвячае таксама грамадскай працы. Многа год быў ён сакратаром грамадскага камітэта партыі. Цяпер выконвае ён абавязкі арганізацыйнага сакратара гміннага камітэта ПАРП у Чыжах.

**М. Гогель**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

У вёсцы Семяноўка, Гайнаўскі павет, упаў у стаячы ля калодзежа кацёл з вадой і ўтапіўся двухгадовы Сцёпа Засім.

У вёсцы Ляшукі ў Гайнаўскім павеце ноччу загарэліся ад маланкі гаспадарчыя будынкі Івана Засіма. Страта — на 35.000 зл.

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### Адказвае Упраўленне Гміны ў Белавежы

W odpowiedzi na Wasze pismo z dnia 2.06.1973 r. wyjaśniam, że zgodnie z autorytatywną decyzją zespołu pracowników nauki z uwagi na występowanie na terenie ścisłego rezerwatu przyrody unikalnej roślinności, regulacja koryta rzeki Narewka z jednoczesnym obniżeniem poziomu wody w rzece spowoduje zniszczenie tych gatunków.

W związku z powyższym niedopuszczalne jest pogłębienie koryta rzeki. Zakres konserwacji może sprowadzać się jedynie do wykaszania traw i porostów w korycie rzeki, co jest wykonywane w każdym roku.

Zagospodarowanie rzeki w samej Białowieży zostało szczegółowo wyjaśnione przez Dyrekcję Białowieskiego Parku Narodowego w Białowieży pismem z dnia 8.06.1973 r. znak: 09/41.

Naczelnik Gminy
inż. MIKOŁAJ CHILIMONIUK




Яўгень Семянюк, Грыгораўцы. Вашы новыя вершы атрымалі. Найбольш падабаецца „Дайце мне руку" (кароткі, закончаная думка, выразны змест). Цікавая думка выказана ў „Дзе ж падзеліся вы" — заклік да ліцэістаў Гайнаўкі і Міхалова, каб пісалі вершы. Аднясна гэтага верша: мо б самі паспрабавалі скараціць яго і ў некаторых месцах перапрацаваць. „Іду" не пойдзе ў друк — прагляніце самі. Адносна чаргі ў(на) „Парнасік", фактычна, даўжэзная. Трэба ўмець чакаць.

Мікалай Панфілюк, Дубічы Царкоўныя. Вы самі нічога не сказалі нам аб „Авечцы". Мы гэта прымаем, як маленькі фельетон з маралю. Надрукуем. Дзякуем за 100 экземпляраў „Нівы" ў падпісцы.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Wyzwolenie" (radz.), 2—3.VIII. „Serce to samotny myśliwy" (USA). 4—5.VIII.

**Кляшчэлі**

„Zjazd rodzinny" (węgierski), 31.VII.—1.VIII. „Tylko wtedy gdy się śmieję" (angl.), 2—3.VIII. „Anatomia miłości" (polski), 4—5.VIII.

**Нараўка**

„Szczęście Anny" (radz.) „Czarodziej Fablo" (franc.), 1—5.VIII.

**Нарва**

„Okruchy życia" (franc.), „Wydra pana Grahama" (angl.), 1—5.VIII.

**Чыжы**

„Sokoły" (węgierski), „Kozacy" (radz.), 1—5.VIII.

**Дубічы Царкоўныя**

„24 godziny z życia kobiety" (franc.), „Małżonkowie roku II" (rumuński), 1—5.VIII.

**Арэшкава**

„Śledztwo w sprawie obywatela poza wszelkim podejrzeniem" (włoski), „Początek nowego świata" (rumuński), 5—6.VIII.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**

„Na krawędzi" (polski), „Bez wyraźnych motywów" (franc.), 1—5.VIII.

**Райск**

„Pilot helikoptera" (rumuński), „150 na godzinę" (polski), 1—5.VIII.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Wielka włóczęga" (franc.), 4—5.VIII.

**Міхалова**

„I znów skaczę przez kałużę" (czeski), 2—3.VIII. „Przyjęcie" (rumuński), 4—5.VIII.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**

„Dziewczyna na miotle" (czeski), „Ocalenie" (polski), 1—5.VIII.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Banda Asa Kier" (radz.), 31.VII.—1.VIII.

**Мельнік**

„Włoch w Argentynie" (włoski), 31.VII.—1.VIII. „Pokój przechodni" (NRD), 2—3.VIII. „Ślub bez obrączki" (czeski), 4—5.VIII.

Hiва

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch". Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa", Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicyści 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł, półrocznie: 14,40 zł, kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty na prenumeratę indywidualną dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch" w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch". Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch", Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40 proc. Nr indeksu 36911

BZGraf. Nakład 6769 K-1

